УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
Д20

Укладанне, прадмова і каментар

Сяргея Чыгрына

**Дарашкевіч, Я.**
Д20 Маркотныя зоркі : з паэтычнай спадчыны / Янук Дарашкевіч ; укл., прадм., камент. С. Чыгрына. — Мінск : Кнігазбор, 2014. — 36 с.
ISBN 978-985-7089-75-8.

Гэта кніга адкрывае новае імя ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры «нашанiўскага» перыяду — паэта Янука Дарашкевіча (1890–1943), творчасць якога высока ацаніў Максім Багдановіч.
У зборнік увайшлі вершы паэта, адшуканыя ў розных архівах і выданнях.

**821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7089-75-8**



## Нашанівец Янук Дарашкевіч

На старонках беларускай газеты «Наша ніва» за 1909 год з'явіліся першыя вершы невядомага паэта з вёскі Меляшкі, якая знаходзіцца недалёка ад Гарадка, што на Беласточчыне, пад псеўданімам В. Каршун. Потам вершы гэтага паэта рэгулярна друкуюцца ў «Нашай ніве» ў 1910–1914 гадах, але пад іншымі псеўданімамі — Янук Д., Янук Д-іч. З «лёгкай» рукі Яўхіма Карскага (Карский Е. Ф. Белорусы. Петроград, 1921. Т. III. С. 337) яго творы былі прыпісаны другому паэту з Гарадка М.Арлу (Сцяпану Пятэльскаму). Пазней памылка гэта была «ўзаконена» нават у акадэмічнай хрэстаматыі «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (Мінск, 1967). Доўгі час ніхто не звяртаў увагі на адрознасць стылю паэтаў, на тое, што М. Арол друкаваў у «Нашай ніве» вершы-прысвячэнні Януку Д., а Янук Д. прысвячаў свае вершы М. Арлу, на рукапісы паэтаў, якія знаходзяцца ў рукапісным фондзе Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы і сведчаць аб прыналежнасці розным аўтарам. І толькі дзякуючы намаганням даследчыка гісторыі літаратуры Арсеню Лісу, гісторыка Юрыя Туронка і іншых навукоўцаў паэту з Меляшкоў было вернута імя. Імя беларускага паэта-нашанiўца Янука Дарашкевіча. А сёння настаў час вярнуць і вершы паэта, большая частка якіх захоўваецца ў рукапісным фондзе Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы.

Янук Дарашкевіч нарадзіўся ў 1890 годзе ў вёсцы Меляшкі на Беласточчыне ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Яго бацькі Кастусь і Настасся мелі 8 гектараў зямлі. Але хлопчыку Януку, у ліку нямногіх сялянскіх дзяцей, пашчасціла прабіцца да навукі. Спачатку ён скончыў царкоўна-настаўніцкае вучылішча ў Ялоўцы, а потым Свіслацкую настаўніцкую семіна-

рыю. Настаўнічаў у Сямёнаўцы і ў Кулях, а калі ажаніўся з Кацярынай Буцько — пераехаў настаўнічаць у вёску Даўкшы каля Панявежыса.

Працуючы настаўнікам, Янук Дарашкевіч збіраў беларускія народныя песні і разам з нотамі дасылаў Антону Грыневічу ў Пецярбург. Большасць народных песень Януком Дарашкевічам была запісана ў роднай вёсцы Меляшкі. Вось адна з гэтых пранікнёных і ўзвышаных песень пра тое, як развітваецца хлопец з роднымі і каханай перад адыходам на вайну:

*Ой, там на гарэ, ой, там на крутой*
*Сівы конь разгуляўся,*
*Малады хлапец, маладзюсенькі*
*На вайну прыбіраўся.*
*Як выбіраўся, то ўсім скланяўся, —*
*Айцу і матулі,*
*А сваёй мілай, наймілюсенькай*
*То найніжай скланяўся…*

Акрамя фальклору, Янук Дарашкевіч захапіўся літаратурай, пачаў пісаць вершы і дасылаць іх у «Нашу ніву». Лепшыя творы былі там надрукаваныя. Пра некаторыя з іх напісаў у сваіх «Беларусах» Яўхім Карскі. Вось адзін з прыкладаў: «Верш “Доля” адлюстроўвае гора мужыка, які пахаваў сваю жонку. Прымірэнне яго з лёсам. Як літаратурная навіна — плач каня». А Максім Багдановіч у сваім артыкуле «За тры гады» аднёс Янука Дарашкевіча да тых аўтараў, «што маюць палёт і талент».

Восенню 1914 года Янука Дарашкевіча мабілізавалі ў царскую армію і накіравалі ў школу прапаршчыкаў пад Петраград. Але перад мабілізацыяй паэт перапісаў усе свае вершы ў асобны сшытак, назваў яго «Абразкі» і даслаў сшытак у рэдакцыю «Нашай нівы» з надзеяй, што супрацоўнікі газеты выдадуць вершы асобным зборнічкам. Але зборнічак так і не пабачыў свет. Пачалася Першая сусветная вайна, а Янук Дарашкевіч на «штык замяняе пяро» і становіцца кадравым вайскоўцам. Ён прыхільна сустракае рэвалюцыю ў Расіі, служыць у Чырвонай Арміі. Праўда, пісаць вершы беларус не пакідае, хоць і жыве ў горадзе Варонежы ў Расіі. Паводле ўспамінаў блізкіх яму людзей, як піша Юры Туронак у «Ніве» ад 2 жніўня 1981 года, наш зямляк быў чалавекам шырокіх інтарэсаў, захапляўся паляваннем, рыбнай лоўляй, радыётэхнікай, разьбой па дрэве і г. д.



Падчас Другой сусветнай вайны Янук Дарашкевіч пайшоў на фронт, дзе і загінуў у ноч з 23 на 24 лютага 1943 года пад вёскай Фецішчава Балхоўскага раёна Арлоўскай вобласці ў Расіі. А ўся рукапісная спадчына беларускага паэта-нашаніўца згарэла разам з домам у Варонежы. Але, на шчасце, захаваўся ў Вільні той сшытак вершаў «Абразкі», які ў 1914 годзе ён даслаў у «Нашу ніву». Нядаўна мне пашанцавала яго адшукаць у рукапісным фондзе Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы і патрымаць у руках, прачытаць і перапісаць усе творы для гэтай кнігі. У старой папачцы, акрамя сшытка вершаў, знаходзіцца яшчэ пісьмо з вершамі ў «Нашу ніву» і некалькі выразак вершаў з гэтай газеты.

Усе знойдзеныя вершы Янука Дарашкевіча сведчаць аб тым, што гэта быў таленавіты і цікавы паэт. У іх адчуваецца стылявая свабода, лёгкасць і нязмушанасць, з якой ён пераходзіць ад гумарыстычна-апавядальнага верша («Ганя») да філасофскага роздуму («Псалм CXXXVI»), ад песні-скаргі на мужыцкую долю-нядолю («З мужыцкага жыцця») да ўзвышанай патэтыкі, заклiку («Стогн», «Надзея»), ад з’едлівага выкрывальнага сарказму («Падлыжнікам») да духоўнай засяроджанасці, чуйнасці, тонкасці псіхалагічнага малюнка («Шкада разбітых мар…», «Мы прасціліся…», «Сончык»).

У 1991 годзе Янка Саламевіч сабраў і выдаў у Мінску асобным зборнікам творы М. Арла (Сцяпана Пятэльскага) «Лірнік». Сцяпан Пятэльскі шчыра сябраваў з Януком Дарашкевічам, разам яны пачыналі друкавацца ў «Нашай ніве». Але яго сябра Янук Дарашкевіч заставаўся да сён-

няшніх дзён забытым і не вернутым чытачам. А Янук Дарашкевіч, як і Сцяпан Пятэльскі, — адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры XX стагоддзя. Таму яго літаратурная спадчына таксама павінна служыць нашай літаратуры і беларускай культуры. Дзеля гэтага ён жыў, пісаў, думаў і пакінуў нам у спадчыну творы, якія склалі гэтую кніжку.

*Сяргей ЧЫГРЫН*



❊ ❊ ❊

Ва што гарачым сэрцам верыў,
Чым жыў, чым буду далей жыць —
То запісаў тут на паперы
Разумным людзям абсудзіць.

❊ ❊ ❊

Шкада разбітых мар… На цёмным дне жыцця
Блішчаць яны маркотна, быццам зоры.
Шкада мінуўшых дзён… Бяздольнае дзіця,
Я не правёў вас вольна на прасторы.
Без мэты не прайшлі. І цяжка ўспомніць мне,
Што не зыймаць вас болей на паперы,
Што вы нішто, што вы прайшлі, ва сне
Без гонару, без працы ды без веры.
І годы праляцяць, і згіне след па іх,
Як гіне след ў густым тумане ночы,
І вечнасць не аддасць часінаў дарагіх,
Не ўбачаць іх мае навекі вочы.
А ўсё ж такі я жыў, хоць сумны як пясняр,
Любіў адну, яна мяне любіла…
Шкада мінуўшых дзён… шкада разбітых мар…
Іх верне мне сырая маць-магіла.

## Надзея

Калі ж тое будзе, калі то настане?
Калі я не чуціму болю?
Калі ў маё сэрца надзея загляне
На шчасце, на лепшую долю?
О край мой бяздольны, загнаны, забіты,
Як цяжка табе, сіраціне;
Як сыплюцца слёзы вунь з гэтай ракіты,
Што тут вось за вёскай ў даліне.
А ты не баішся — ты робіш, страдаеш
Ды гнеш сваю спіну бясконца…
Хто ведае? Можа, і ты заспяваеш
Прывет чарадзейнаму сонцу.
Праглянуць праменні, разыдуцца хмары,
Засвеціць праўдзівасць на свеце,
І слёзы пакуты з заплаканай твары
Сатруць твае ўзрослыя дзеці.
Той час блізка — я чую грудзіма —
Працуйце ж, браты-земляробы!
А тым, хто глуміцца над нашай радзімай,
Мы шчыра пазычым хваробы!

## Сончык

Зачарнелі палі, аджывае зямля,
Сонца свеціць ласкава, цяпло.
Лес маркотна шуміць, сэрцу
хочацца жыць
Ды вярнуць то, што ў вечнасць ўцякло.
І пачуўшы прывет — сонца цёплага свет, —
Робка выглянуў сончык з зямлі.



Распусціў капшучок, прыпадняў сцебялёк
І зацвіў… А часіны цяклі…
Горач спёку жане, лес заціх, як ва сне,
Пташкі змоўклі, абрыдла цяпло.
І час смерці настаў: сончык ціха сканаў,
А то мейсца травой зарасло.
Гэтак будзе са мной. Ціха цёплай вясной,
Як той сончык, я свету хачу.
А як прыйдзе пара, згасне жыцця зара,
Як і ён, я навек замаўчу.

## Стогн

Хочацца крыкнуць, каб неба ўздрыгнулася
Страшна — галасна, каб людзям пачулася,
Як тут канае іх брат-чалавек!
Голадам зморапы, цемрывам скручаны,
Працай нямернай забіты, замучаны,
Моўчкі без скаргі канчае свой век!
Гіне ён… Помач ніскуль не яўляецца…
Стогны ў паветры яго расплываюцца…
Людзі не хочуць іх ведаць, ні чуць.
Што ім да гэтага стогну народнага?
Быццам, як свята, іх жыцця выгоднага
Дні за дзянькамі так роўна бягуць!
Не да яго ім. Мой браце змарнованы,
Скрыўджаны, зганьблены, імі аплёваны,
Толькі ім сілы свае падавай!
Толькі кармі іх ты працай крываваю,
Жыццё дастаў ім з раскошай, з забаваю,
Сам жа ты з голаду гінь, падыхай.
Эх, небарака! Калі ты падымешся

Моцнай сцяною, як хваляй уздымешся
Сказаці ўсім, што і ты чалавек!
Чы мо, пакоры спрадвеку навучаны
Цемравам вечным, нядоляю скручаны,
Гэтак ў пакуце жыць будзеш ўвесь век?

## З мужыцкага жыцця

Дрэнны дзянёк! Завіруха, мяцеліца,
Свету праз снег не відаць.
Вецер шалёны і свішча, і мелецца,
Дрэвы маркотна шумяць.
Толькі галінкі з бярозаў паломаных,
Што за сялом, разнясло
Ветрам па полі. Да стрэхаў саломяных
Ў снег патанула сяло.
Хто ж гэта едзе дарогай бязлюднай
Ў час такі дрэнны адзін?
Гэта мужык едзе з думкаю нуднай,
Гэта бяздольнасці сын.
З могілак едзе ён: ў зямлю замёрзшую
Там ён схаваў без людзей
Жонку сваю, ад гарачкі памершую,
Матку пяцёрых дзяцей.
Думкі маркотныя, думкі тасклівыя
Думаў ён, после сказаў:
«Гдзе ж вы падзеліся, годы шчаслівыя?
Я вас так доўга чакаў.
Сілу патраціў, рабіў ды надзеяўся,
Біўся як рыба аб лёд.
Мусіць, то Бог на мяне так разгневаўся…
Эх, хоць на ўсё бы ўжо звод!



Жонка ўмярла… Пачывай! Ты шчаслівая,
Гора ды смутку дзіця.
З сэрцам святым, заўсягды цярпялівая,
Ты ўжо прайшла шлях жыцця.
Што табе?! Нет там на могілках холаду,
Есці не просяць ў зямлі, —
Толькі я з дзеткамі з гора ды з голаду
Ў гэтым гаротным сяле.
Буду ўміраць не зараз, не гадзінамі,
А цэлым векам сваім…
Што ж, прыйдзе час: можа, там, пад асінамі
Стане нам мейсца дваім?!» —
І, апусціўшы галову панурую,
Цяжка бядняга ўздыхнуў…
Позна ўжо. Снег, падвіваемы бураю,
Свет пеляной зацягнуў.
Едзе ён, бедны, і конь як бы знаючы
Гора «ўладыкі» свайго,
Ідзе памаленьку, вушамі махаючы,
І слёзы цякуць у яго.

## Псалм CXXXVI

Мы з плачам сядзелі ля вод Вавілона,
У маркотны сабраўшысь кружок,
І там ўспаміналі цябе, о Сыоне!
Цябе, мілы сэрцу куток!
Спакойна і ціха каціліся воды
Між кветных чужых берагоў…
Дарэмна! Мінуўшай Сыонскай свабоды
Не выплакаць нам у ўрагоў!
Пакуль з безгранічнай журбой мы глядзелі

На чыстыя воды — яны
З насмешкай прасілі, каб песню мы спелі
Аб муках сваёй стараны.
Не, вораг-мучыцель не ўчуе ніколі
Той песні пра родны Сыон,
Ні голасу арфы — бо песня без волі —
Арла змардаванага стогн.
Адсохнуць мае спрацаваны хай рукі,
Як чэпляць за струнны арган,
І выдадуць грудзі сардэчныя мукі
На смех і на здзекі ўрагам!
Мы з болем павесілі арфы на лозы,
Ды песні пра родны Сыон
Нішто не заглушыць — ні мукі, ні слёзы,
Ні душу ўзрываючы стогн…

## С. Пятэльскаму

Хрыстос ўваскрос! Кампан мой мілы,
А сэрца стогне так уныла.
Чагось няма, чагось хацеў бы…
Каб крылля — зараз паляцеў бы
Да цябе.

## З маіх песень

1

Чаго плачаш, чаго тужыш,
Бедная дзяўчына?
Чаго слёзы льеш над рэчкай?
Якая прычына?



Ці мілюсенькі не ўдаўся,
Ці пайшоў ў салдаты,
Ці мо мачаха ліхая
Выгнала це з хаты?
Забудзь гора, забудзь крыўду!
Сэрца любіць волю.
Дай мне ручку! Мы з табою
Знойдзем лепшу долю.
Конь мой вецер, сядзь, паедзем,
Шчасце тут, за горкай.
Днём праменнямі ківае,
Ноччу свеціць зоркай.

2

То не вецер ў полі
Жаласліва вые, —
То з няшчаснай долі
Маё сэрца ные.
Чэзнуць думкі ў жалю,
Слёзка падступае, —
Што была дзяўчына,
Не любіць і тая.
Ох, не жыць мне болей,
Аднаму без мілай,
Пацяшацца воляй
Пташачкай бяскрылай.
Палячу далёка
Ў старану чужую,
Палюблю сардэчна
Мілую другую.
Можа, там, за морам,
З мілаю другою

Разжанюся з горам,
З горам ды нудою.

3

Як засвецяць ў небе зоры,
Як людзей абморыць сон,
Ля берага ў сінім моры
Я пастаўлю свой чавён.
Сам пайду пад то ваконца
Рана-раненька з расой
Й зваблю стуль дзяўчыну-сонца
З цёмна-буйнаю касой.
Мой чавён, як птушка, лёгкі,
Буру бачыў ён не раз,
А край мілы, хоць далёкі,
Як дзяцей, абыйме нас.
Калыхаць нас будзе мора,
Вецер песні будзе пець,
І на шчасце наша зоры
Будуць з радасцю глядзець.

## Малітва беларуса

Божэ! Божэ! Дай нам сілу,
Дай нам моц, дай розум нам,
Дай нам свет, навуку мілу,
Палажы канец слязам!
Разгані туман няпраўды,
Што уеўся ў вочы мглой…
Хай засвеціць сонца праўды
Над забытай стараной.



❊ ❊ ❊

Гляджу я з таскою ўпярод і назад,
Вакол толькі смутак ды рабства вітае:
І гора, і ўстыд мне душу раз’ядае
За це, мой забыты, зніштожаны брат!..

## З песень адзінокага

*Прысвячаю П. А. Крачэўскаму*

І нудна, і цяжка на сэрцы,
Прывету нідзе не відаць.
Здаецца б, нястрашна і ўмерці,
Благое жыццё скаратаць.
Як вецер мятлічку лістае,
Як лес непагодай шуміць
Так смутак душу мне з’ядае,
Так сэрца без сэрца баліць.
Зірну я на яснае неба,
Зірну на сяло пад гарой,
Я чую: цябе нам не трэба —
Ты будзеш жыць век сіратой.

## Падлыжнікам

О вы, паганыя саромцы,
Ванюча-ліпкія, як гразь,
Чаго вы сталі нам ў ваконцэ?
Чаго вы хочаце ад нас?
Чаго вы мучыце бязбожна
Святую, чыстую ваду?

Ці мо цяпер ўжо ўсё вам можна?
Ці мо на нашую бяду
Вас хто наняў? Кажыце, злыдні!
Чаго маўчыце? Дайце нам
Сваю атповедзь!.. А, вам стыдно?!
Вам брыдка глянуць ў вочы нам!?
Вам не па сэрцы рух народа,
Прагрэс вы ломіце, як плот,
Вам словы «праўда» і «свабода»
Страшныя?! О, на вас бы звод!
Вы хочаце інтрыгай бруднай
Зару надзеі загасіць?!
Дарэмна! Гэта досі трудна —
Зара ўжо свеціць, ўжо гарыць.
Яе пламенні ўжо пылаюць
У кожнай праведнай душы
І ціха вабяць-прызываюць:
«Ўставай, мужык! Працуй! Спяшы!..»
Настане час — і доля наша
К нам неспадзеўкі загляне,
І памяць юдаў — памяць вашу —
Яна навекі пракляне.

## Вясна

Прайшлі ўжо зімовы забавы,
Мінулі і цяжкія сны.
І сонца усмешкай ласкавай
Глядзіць на зямлю з вышыны.
Няма ўжо і снегу на полі,
На небе паменшылась хмар,
І моцна душою на волі



Цяпер размахнецца пясняр.
Тут ліпа ў лісточкі адзета,
Абсыпана свежай расой.
І вадзіць, і кліча паэта,
Ківае яму галавой.
А тут і кудравы бярозы
Ласкава пытаюць: «Аб чым
Ты плачаш? На што гэты слёзы?
Глядзі, што за радасць кругом?..»

## Малітва

*(З Лермантава)*

Ў часіну трудную жыцця,
У смутную пару
Я, бы нявіннае дзіця,
Малітву гавару.
Ёсць сіла дзіўная, як Бог,
У шэпце маладым,
І аддаецца чыста ўздох
Ў грудзях агнём святым.
З душы трывога многіх лет,
Як ноч, як цень, збяжыць,
І сэрца просіцца на свет,
І хочацца любіць.



Мы прасціліся, помніш, без слёз,
Хоць душа разрывалась ад болю…
Буйны вецер развеяў, разнёс
Нашы думкі па чыстаму полю.
Ты маўчала. Я доўга глядзеў
Ў твае вечна задуманы вочы…
О, як моцна я сэрцам хацеў,
Каб канца не было гэтай ночы!
Але час наш прабіў… Ты ўзяла
Маю руку ды ціха сказала:
«Не гаруй! Дзе бы я ні была,
Я це буду кахаць, як кахала!
Загародак для сэрца няма:
Яно свет праляціць, як салоўка, —
Пацалуй жа мяне!» І сама
Ты ка мне нахіліла галоўку.
Як ва сне, я абняў це рукой
(Ты забыла сказаць: адхіліся!),
Нашы вусны бы самі сабой
Ў пацалунак прашчальны зліліся.



Цярпець малых я не магу,
Ну проста ані дваня!
Прад імі гнуся ўсё ў дугу…
Другая справа — Маня.
Высока, стройна — як ні глянь!
А вочы… Што ноч?! Зоры?!



Як ў кошкі — гібкі яе стан,
А грудзі — снегу горы.
Яе каса блішчыць у кветках,
Праменні сходзяць з зубкаў.
І цягне нейкі страсны пах
З чырвоных пухлых губкаў.
Люблю хоць дваццаць я такіх,
Яны ўсе сэрцу мілы.
Ў іх ласках і славах жывых
Бяру жыцця я сілы.



## К***

Што рок так дзіўна зблізіў нас, —
Я ў тым бяру жыцця страду,
Напомні і лепей капля яду,
Чым шклянка піва за адказ.

## М. Арлу

О брат мой, прыяцель сардэчны,
Ты выбраў слаўны шлях жыцця.
Глядзі ж, бяздольнае дзіця,
Не ўпасць ў канаву злосці вечнай.
Твой шлях няроўны, хоць шырокі,
На ім йшчэ шмат каменняў, ям.
Вучы! Працуй. Хай славы крокі
Твайго жыцця ўжо будуць там,
Гдзе так галосна, так праўдзіва
Пяюць браты душы твае,
Гдзе травамі заросша ніва

Калоссяў праўды не дае.
Зірні наўкол — мужыцка поле,
Гдзе недзе траўка зеляніць…
Працуй, браце! Ёсць сэрцу воля
Вучы, каб ведалі, як жыць.
Будзь цвёрды духам да магілы,
Ідзі за Коласам услед.
Спяшы ўпярод што маеш сілы,
Там ты агледзіш праўды свет!

❊ ❊ ❊

*К. М. К.*

Вецер свішча, вецер вые,
Гнуцца вербы над вадой.
Сэрца стогне, сэрца ные
Па дзяўчыне маладой.
Ные сэрца, плачуць вочы,
Думкі роем мелькацяць…
Дзе прапалі ясны ночы?
І калі іх прычакаць?..
Як бывала, месяц поўны
Шле праменні нам праз клён.
Позна ўжо, а нам ўсё роўна!
Што спачынак нам, што сон?..
Мы ўдваіх, нам сон не трэба,
Воля ў нас была свая.
Наша хата — сіне неба,
А хлеб — песні салаўя!..
А цяпер? Цяпер ўсё йначай:
Лісці сыплюцца з дрэўя…



І адзін я сохну, плачу
Без цябе ды салаўя.

## З родных абразкоў

Тракцір. За сталом мужык песні пяе,
Знаць, доля яго ўжо такая.
Ён пот свой крывавы з казёнкаю п’е
Ды ў песнях нуду вылівае.

## Легенда

«Скажы нам, дзядуля, — раз дзеці гавораць, —
Адкуль гэта песні бяруцца?
І хто іх спявае, хто піша, хто творыць?
Адкуль яны вечна так льюцца?»
Ігнат засмяяўся, занюхаў табакі,
Ды кажа: «Паслухайце, дзеці
Вы йшчэ маладыя, а я, небарака,
Шмат бачыў ўсяго ўжо на свеце.
Ў далёкай старонцы, за тым вунь лясочкам,
Ёсць мора, вялікае мора.
Вада ў ім чырвона, а бераг пясочкам
Пасыпан. Ў шырокім прасторы
Пад сонцам гарачым, на глыбі па хвалі
І буры, і ветры гуляюць.
А зоры ў ім разам з высокае далі,
Як ў люстры, свой блеск адбіваюць.
Калісь праз то мора — так кнігі тлумачаць,
І людзі дзівуюцца чуду, —
Жыды, як ўцякалі з егіпецкай, значыць,

Зямлі, а жыдоўскаму люду
Не смачна жылося ў егіпцян ў няволі,
Пяхотай, без човен, заўчэсня
Прайшлі яны суха па дне, як па полі,
І Бога праславілі песняй.
А людзі з Егіпта з дзяцьмі ды жанкамі,
Што беглі па следу жыдоўскім,
Каб зноў іх ў няволю вярнуць ды рабамі
Зрабіць, — па жаданні, знаць, Боскім.
За мукі, за здзекі, за цяжкае гора,
Што боскаму люду ўчынілі —
У хвалях гарачых чырвонага мора
На вечныя векі пачылі.
Прайшло многа часу — і што нам здаецца?
Тры дочкі цара Фараона
На дне таго мора, як здаўна вядзецца
Па Божаму, значыць, закону,
Знайшлі сабе ў хвалях не смерць, не магілу —
Было ім адзначана Богам.
Не гэта — ён ў большым з'явіў сваю сілу —
Ён даў ім быць рыбам бязногім,
Хвасты, каб маглі яны плаваць бяспечна,
І даў ім вялікую здольнасць навечна
Да песняў — разводнікаў гора.
І так ўжо вядзецца: як месяц прагляне —
На бераг яны выплываюць,
І з болем сардэчным, з пламенем кахання
Чароўныя песні спяваюць.
А вецер ды пташкі разносяць па свеце
Маркотныя зыкі з трывогай:
І мы іх спяваем, і вы, дзеткі, глядзеця
Шануйце іх у сэрцы, як Бога!»



## Ганя

«Годзе мне адной так жыць,
Сохнучы пакрысе,
Пайду святам варажыць
Да старой Марысі.
Хай дасць любае травы,
Паглядзіць на вочы,
Можа, Янка Канцавы
І прысніцца ўночы.
Можа, прыйдзе ў мясаед
Ў добрую пагоду,
А то проста цэлы свет
Не дае праходу.
Дзе не йдзеш, стары, малы:
"Глядзі, замуж хоча".
А каб вам, Бог даў, смалы
Налілі у вочы!
Добра вам мяне на смех
Вёскай падымаці,
Калі ў вас, хоць губе грэх,
Ўжо па тры дзіцяці.
Нават злосць бярэ, гляджу —
Замуж ўсіх хватаюць.
А я столькі год сяджу,
І нават не пытаюць!»
Бедавала гэтак ў нас,
Ў нашай роднай вёсцы,
Адна дзеўчына якраз
Ў Піліпавым посці…
От Піліпаўка прайшла
І настала свята…

Тут ўжо з цэлага сяла
Варожаць дзяўчаты.
Сабраліся да старой
Чуць не ўсе суседзі
І гадаюць, хто хутчэй
Выйдзе ў мясаедзе.
І старая ўсім якраз
Праўду сыпле разам.
Але, ведама, пры вас
Гэтага не скажам,
Бо то сэкрэт мой: яны
Ўсё мне расказалі.
І з той ночы мае сны
Проста небам сталі.
Але я забыў сказаць
Пра знаёму раней,
Мы ўжо будзем яе зваць
Пекным імем — Ганя.
Прычакаўшы першых свят —
Велька нецярпенне —
Ганя на плечы халат —
Дый на варажэнне.
Пазахлеўю, вечарком,
Каб ніхто не бачыў,
Прэ без оглядкі бягом
Да старой, няйначай.
Прыбягае, аж глядзіць
Праз акно да хаты:
Ані духа, толькі спіць
На печы вусаты
Кот. То й добра, што няма
Нікога у хаці:



Я ж, знаць добра, не здарма
Схацела згадаці.
Кажа так — і зараз шась
Да дзвярэй, ды ў хату…
Аж нясе тут Бог якраз
Марысю гарбату.
«Як жывеце? — завяла
Зара наперш Ганя. —
Я вам трохі прынясла
Добрага снядання».
І пры гэты з-пад палы
Выняла каўбасу,
Ды гаршчочак немалы
Цёпленькага квасу.
«Ешце, — кажа, — хай, дасць Бог,
Вам ў спажытак стане!»
А сама ўсё на парог
Сюд-тут, ды зноў гляне.
Але што сябе страшыць
Ды на дзвер ўзірацца, —
Як прыйшла ўжо варажыць,
Дык не трэ баяцца!
І паждаўшы, каб з гаршка
Квас старая з’ела,
Ганя, як бы спадцішка,
Ўзялася за дзела.
Расказала, што чуваць
Ў вёсцы ды мястэчку,
І, пачаўшы падбіраць
Па адным славечку,
Памаленьку завяла,
Што ёй кепска жыці

І што вось яна прыйшла,
Каб паваражыці.
Гэта ўчуўшы, аж да пят
Старая струпела:
«Жарты! Ў першы дзень Каляд
Варажыць схацела!
Хіба сэрца ў цябе нет?!—
Кажа ёй са злосцю. —
Хіба хочаш на той свет
Паслаць мае косці?!
Помні: ў грэх душы не ўводзь,
Пачакай да часу!..» —
«То аддайце, — кажа, — хоць
Гаршчок ды каўбасу!» —
«За каўбасу прыйдзеш раз
А шчэ пад Тры Кролі,
А гаршчок бяры — у нас
І сваіх даволі…»

## З маіх папераў

Слухайце! Я вам спяю
Пра маладосць пра сваю.
Я радзіўся ў слаўным царстве
Ў беларускім гасударстве,
Не на небе — на зямле,
Ў адным бедненькім сяле.
За шэсць год ад маткі з татам
Нас радзілася тры брата.
Старшы я — Янук ў назвіску —
Вельмі гіцаль быў ў пасвіску,
Але так сабе — не жулік,



Сярэдальшы зваўся — Юлік,
Меншы проста — Мікалай, —
Здольны хлопец, ды гультай.
Былі ў нас яшчэ і сёстры,
Але верш мой трохі востры
І да бабаў ён не шталціць,
Не пацешыць, толькі згвалціць,
Скажу толькі для прымусу:
Іх у нас было чатэры.
Мы не сеялі пшаніцы,
Бо не мелі шмат зямліцы,
Праўда, быў адзін чвартак
Дзесяцін са тры — ну, так.
Свайго хлеба, не аладзяў,
Усё хапала да Калядзяў.
Татка прыйдзе скульсь, бывало,
Ды гаворыць: «Хлеба мало,
Куцця выйшла, бульбу з’елі…
Што парадзіць ў гэтым дзеле?»
Помню раз ў зімову пору
Татка ўходзіць ды гавора:
«Пайду хіба ў лес з пілою,
Ты мо справішся з сям’ёю?
Глядзі дзетак сколькі можэш,
Бядзе горам не паможаш,
Вучы меншых — ты іх маці,
Не спускай парадку ў хаці.
Есць наварыць і Марыся,
Шануй се, не падарвіся!».
Татка пойдзе, плача маці,
Мы сядзім за печчу ў хаці,
А на вокна страшна глянуць —

Усё ў снягу, гуляе замяць.
Вецер вые, падвівае,
Сваю долю ўспамінае...
Падраслі мы, дзякуй Богу,
Абуць няма у што ногу.
Трэба якось міркавацца,
За работу разам брацца.
Пайшоў бацька раз да пана,
Доля ж наша, ты пагана!
Ды зышоўся з ім на дзела,
Мяне ў світачку адзелі,
Далі лапці, майку з ваты,
І пайшоў я пасць цяляты.
Я быў добры ўжо падшпарак,
Дзесяць год мінула б за рок,
Спершу пасць я меў ахвоту —
Трэба ж брацца за работу.
После розаг, за звычаем,
Мне здалося усё раем.
А трэ ведаць — ў сям'і нашай
Часта нас кармілі кашай,
Толькі каша та з бярозы…
Эт, не буду — душаць слёзы…
А пастух з мяне, адначэ,
Выйшаў дрэнны. Не іначай,
Як вінога ў дзеле гэтым
Быў я сам душой паэта,
Заганю цяляты ў поле
І дам думкам сваім волю.
Лягу ў жыце пры дарозе…
Ціха шэпчуцца бярозы,
Вецер жытко нахіляе,



Жаўрук песні распявае,
Каршун плавае, як хмара,
Выглядаючы ахвяру.
А зязюля, ведзьма гэта,
Звонка, нудна лічыць леты.
І душа так пасвятлее,
Сэрца ў грудзях б'ецца, млее…
Колас трэцца каля вуха —
Я падумаў, што то муха,
Павярнуўся, лепей стала…
А да вечара ўжо мала.
Вось і сонейка заходзіць,
Эканом з нагайкай ходзіць:
«Гэта што за чэпуха?
Разыскаць мне пастуха!
Сам пайшоў мо гдзе не шкодзе,
А цяляты, бач, ў гародзе,
Даць яго мне ў гэты момэнт!» —
І пайшоў па полі лёмэнт.
Я падняў з мяжы галоўку —
Будзе, думаю, лупцоўка.
Але пан мой быў не злосны:
Даў мне розак мусі з восем
Ды пакінуў без вячэры,
Гэта ніц яшчэ паперы,
А бывалі іншы разы,
Што па дваццаць сыпаў зразу.
Я з цялятамі спаў вечна
На саломе — ну, канечна,
Душна, вонь, хай Бог бароніць!
Ў жываце — пан-голад звоніць.
Лішаі ўвесь твар раз'елі,

Сверб, нуда пайшлі па целе.
Не раз думаў, што дзівіцца,
Як ўсё кінуць ды ўтапіцца.
Але ўсё-такі не кінуў,
Не ўтапіўся і не згінуў,
І хоць думаў аб пабегу —
Дацягнуў-такі да снегу.
Пан быў добры, што казаці,
Даў рубля мне, лык на лапці
І — знаць, гіцаль быў багаты —
Гукнуў: «Можэш йсці дахаты!»
Рад, бягу ды выдзыгаю:
Сабак палкаю ганяю…
А на вёсцы, чую, людзі
Кажуць, школка свая будзе,
Што сягоння па абедзе
І вучыцелька прыедзе.
Дзеці сходзяцца, жартуюць,
Аб вучыцельцы талкуюць.
Я да хаты — хата чорна,
Кінуў лыко я на жорна,
Рубля татку даў на жыта,
Сам на двор — і ўсё забыта…
Я на гэтым верш канчаю,
Бо адвагі больш не маю,
Калі-колек іншым разам
Пра што лепшае раскажам…



## Каментар

Вершы Янука Дарашкевіча, што ўвайшлі ў гэту кніжку, паходзяць з розных друкаваных і архіўных крыніц. Асноўныя з іх зберагаюцца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа 83), а таксама тыя, якія друкаваліся на старонках «Нашай нівы» ў 1909–1914 гадах і ў іншых беларускіх выданнях.

*«Ва што гарачым сэрцам верыў…», «Надзея», «Малітва беларуса», «Гляджу я з таскою ўпярод і назад…», «Вясна», «Малітва», «Цярпець малых я не магу…», «К***», «М. Арлу», «Легенда», «З маіх папераў»*

Друкуюцца паводле аўтографа паэта, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа 83).

*Шкада разбітых мар…*

Упершыню быў апублікаваны ў газеце «Наша ніва» 21 лістапада 1913 года пад псеўданімам Янук Д-іч.

*Сончык*

Друкуецца паводле штогодніка «Дзень паэзіі — 1989» (Мінск, 1989. С. 232), дзе ўпершыню быў апублікаваны.

*Стогн*

Упершыню быў апублікаваны ў газеце «Наша ніва» 8 сакавіка 1912 года пад псеўданімам Янук Д. Кандыдат філалагічных навук, складальнік кнігі твораў М. Арла «Лірнік» (Мінск, 1991) Янка Саламевіч лічыць, што гэты верш напісаў М. Арол (Сцяпан Пятэльскі) — зямляк і сябра Янука Дарашкевіча. Даследчык уключыў яго ў кнігу «Лірнік»

М. Арла і даказвае, што верш «Стогн» не належыць Януку Дарашкевічу і на гэта ёсць падставы. Найперш, той факт, што Янук Дарашкевіч, рыхтуючы ў 1914 годзе свой паэтычны зборнік «Абразкі», верш «Стогн», які вылучаецца сярод іншых высокім паэтычным майстэрствам, у свой рукапісны зборнік, які прызначаўся для выдання, не ўключыў. Ды і М. Арол у 1913 годзе, калі рыхтаваў свайго «Лірніка», не мог «забыць» пра аўтарства і прысвоіць чужы твор, які і публікаваўся усяго нейкі год перад гэтым. Янка Саламевіч мяркуе, што перад публікацыяй у «Нашай ніве» рэдакцыя пераблытала аўтарства верша «Стогн». Тым не менш верш «Стогн» Ігнат Дварчанін уключыў у сваю «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры» ў 1927 годзе як верш Янука Дарашкевіча. Тыднёвік беларусаў у Польшчы «Ніва» ў 1981 годзе таксама змясціў гэты верш як твор Янука Дарашкевіча.

*З мужыцкага жыцця*

Друкуецца паводле аўтографа паэта, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа 83). «Наша ніва» гэты верш надрукавала 3 лістапада 1911 года пад назваю «Доля» і пад псеўданімам Янук Д.

*Псалм CXXXVI*

Друкуецца паводле аўтографа паэта, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа 83). Упершыню верш быў апублікаваны ў «Нашай ніве» 26 красавіка 1913 года пад псеўданімам Янук Д.

*С. Пятэльскаму*

Друкуецца паводле аўтографа паэта, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа 83). Верш аўтар прысвяціў паэту, земляку і сябру Сцяпану Пятэльскаму (М.Арлу), які нарадзіўся ў Гарадку Беластоцкага павета Падляшскага ваяводства.



*З маіх песень*

Друкуецца паводле аўтографа паэта, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа 83). Другая частка верша друкавалася ў «Нашай ніве» у № 42 за 1909 год пад загалоўкам «Песня» і прысвячаліся радкі М.Арлу. Верш быў надрукаваны пад псеўданімам В.Каршун. Трэцяя частка верша таксама друкавалася ў «Нашай ніве» 20 чэрвеня 1914 года пад псеўданімам Янук Д.

*З песень адзінокага*

Друкуецца паводле аўтографа паэта, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа 83). Верш прысвечаны Пятру Крачэўскаму (Крэчэўскаму) (1879–1928) — беларускаму грамадска-палітычнаму дзеячу. Свае вершы Пятру Крачэўскаму прысвячаў і М.Арол. Прысвячэнні Янука Дарашкевіча і М.Арла (Сцяпана Пятэльскага) важныя ў тых адносінах, што яны даюць яшчэ адзін кірунак пошуку рукапіснай ці эпісталярнай спадчыны двух паэтаў з-пад Гарадка ў Пражскім архіве Пятра Крачэўскага.

*Падлыжнікам*

Друкуецца паводле аўтографа паэта, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (фонд 21, справа 83). Упершыню ў Беларусі з невялікімі праўкамі быў апублікаваны ў штогодніку «Дзень паэзіі — 1989» (Мінск, 1989. С. 231–232).

*Мы прасціліся, помніш, без слёз…*

Друкуецца паводле штогодніка «Дзень паэзіі — 1989» (Мінск, 1989. С. 232), дзе ўпершыню быў апублікаваны.

*Вецер свішча, вецер вые…*

Упершыню быў апублікаваны ў газеце «Наша ніва» 14 кастрычніка 1910 года пад псеўданімам Янук Д.

*З родных абразкоў*

Упершыню быў апублікаваны ў газеце «Наша ніва» 19 красавіка 1912 года пад псеўданімам Янук Д.

*Ганя*

Упершыню быў апублікаваны ў газеце «Наша ніва» 27 студзеня 1911 года пад псеўданімам Янук Д.



# Змест

Нашанівец Янук Дарашкевіч. *С. Чыгрын* ........ 3

* * * Ва што гарачым сэрцам верыў… ........ 7
* * * Шкада разбітых мар… ........ 7
Надзея ........ 8
Сончык ........ 8
Стогн ........ 9
З мужыцкага жыцця ........ 10
Псалм CXXXVI ........ 11
С. Пятэльскаму ........ 12
З маіх песень ........ 12
Малітва беларуса ........ 14
* * * Гляджу я з таскою ўпярод і назад… ........ 15
З песень адзінокага ........ 15
Падлыжнікам ........ 15
Вясна ........ 16
Малітва
*(З Лермантава)* ........ 17
* * * Мы прасціліся, помніш, без слёз… ........ 18
* * * Цярпець малых я не магу… ........ 18
К*** ........ 19
М. Арлу ........ 19
* * * Вецер свішча, вецер вые… ........ 20
З родных абразкоў ........ 21
Легенда ........ 21
Ганя ........ 23
З маіх папераў ........ 26

Каментар ........ 31

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Дарашкевіч** Янук

**МАРКОТНЫЯ ЗОРКІ**

*З паэтычнай спадчыны*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Набор *С. Чыгрына*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 2.07.2014. Фармат 84х108 1/32.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 1,89.
Ул.-выд. арк. 0,99. Наклад 50 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/218 ад 14.04.14.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.